# РАЗАМ З ПАРТЫЯЙ, РАЗАМ З НАРОДАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

«Гамлета» і праця работы над спектаклем «Рамэо і Джульета».

Мы звяртаемся з просьбай да нашых беларускіх пісьменнікаў больш актыўна працаваць над стварэннем п'ес на сучасную тэматыку, якія адлюстроўвалі б слаўныя справы нашага народа ў будаўніцтве камунізма.

Затым выступае старшыня аргбюро Саюза кінематаграфістаў БССР, народны артыст БССР **У. У. Корш-Саблін.** Ён гаворыць:

— Вялікім паходам назваў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў наш рух да камунізма. У гэтым паходзе поплеч з гераічным рабочым класам і калгасным сялянствам ідзе і наша савецкая інтэлігенцыя.

Кіруючыся ўказаннямі Ул. І. Леніна аб тым, што літаратура і мастацтва з'яўляюцца важнейшай састаўной часткай агульнанароднай барацьбы за камунізм, партыя заўсёды надавала і надае першараднае значэнне творчай дзейнасці мастацкай інтэлігенцыі, росквіту нашай шматнацыянальнай сацыялістычнай культуры. Партыя клапатліва, уважліва і чула накіроўвае развіццё літаратуры і мастацтва па шляху служэння народу, па шляху сацыялістычнага рэалізму.

Не так даўно наша студыя выпускала толькі адзін мастацкі фільм у год. За апошні час яна зрабіла вялікі крок уперад. Дастаткова сказаць, што за 3 гады студыя выпусціла 10 мастацкіх фільмаў, з іх 9 па сцэнарыях беларускіх аўтараў.

У 1960 годзе мы пераехалі ў новы будынак. Многім таварышам, якія сядзяць тут, можа здацца, што ў нас ужо створаны ўсе ўмовы для нармальнай творчай работы. Аднак гэта далёка не так. На жаль, мы яшчэ не можам рабіць здымкі карцін на новай студыі, таму што не закончан і не ўступіў у строй ні адзін здымачны павільён. Няма на новай студыі таксама асноўных вытворчых цэхаў. Мы да гэтага часу вымушаны здымаць на старой, малапрыстасаванай базе.

Але ці можам мы, прыкрываючыся гэтымі цяжкасцямі, апраўдваць нашы недахопы? Вядома, не. Глядач не даруе і не можа дараваць нам дрэннай работы.

На працягу ўсіх пасляваенных год самым вузкім месцам на нашай студыі было сцэнарнае пытанне. У нашай практыцы нярэдка бывае так, што мы запускаем у вытворчасць недапрацаваныя, сырыя сцэнарыі, якія неабходна дапрацоўваць у працэсе здымак.

За апошні час у нас пачалі ўмацоўвацца творчыя сувязі з беларускімі пісьменнікамі. З іх дапамогай студыя стварыла рад фільмаў, якія па праву ўвайшлі ў актыў агульнасаюзнай кінематаграфіі.

У цяперашні час студыя працуе над стварэннем карцін на сучасныя тэмы. Па сцэнарыю М. Гарулёва здымаецца фільм, які расказвае аб працоўных буднях беларускіх трактаразаводцаў. Рыхтуецца да пастаноўкі карціна «Сярэбраныя дарогі» (аўтар сцэнарыя Я. Васілёнак), якая расказвае аб жыцці і працы паравознай брыгады, аб высакароднасці і аб маральных якасцях яе людзей.

Над сцэнарыем «Зямная соль», прысвечаным будаўнікам Салігорскага калійнага камбіната, працуе малады пісьменнік У. Караткевіч. Абяцаюць у гэтым годзе даць студыі сцэнарыі на сучасную тэму пісьменнікі І. Шамякін, А. Макаёнак, А. Маўзон і іншыя.

Але мы не забываем і аб тэматыцы, звязанай з гераічнай барацьбой беларускага народа ў дні Вялікай Айчыннай вайны. У плане нашай студыі стварэнне карцін аб Веры Харужай, обальскіх камсамольцах-падпольшчыках і юных героях-піянерах у час Айчыннай вайны.

Але ўсё пералічанае — гэта яшчэ вельмі мала, калі ўлічыць, што студыя павінна павялічваць з кожным годам выпуск карцін і давесці яго да 8—10 у год. Для гэтага нам патрэбна многа добрых сцэнарыяў, а гэтую вялікую задачу мы не можам вырашыць без актыўнай дапамогі нашых пісьменнікаў.

Галоўны дырыжор Беларускага дзяржаўнага Вялікага тэатра оперы і балета, народны артыст БССР **Л. У. Любімаў** сваё выступленне прысвяціў пытанням развіцця опернага і балетнага мастацтва ў рэспубліцы.

— Разам з усім савецкім народам, — гаворыць ён, — калектыў нашага тэатра рыхтуецца дастойна сустрэць XXII з'езд роднай Камуністычнай партыі. Заканчваючы сезон, мы можам з некаторым задавальненнем адзначыць, што наша імкненне да стварэння сваіх нацыянальных оперных і балетных твораў ужо дае станоўчыя вынікі.

Вялікай падзеяй гэтага сезона з'явілася з'яўленне на сцэне тэатра першай оперы маладога беларускага кампазітара Юрыя Семянякі «Калючая ружа».

Мы рады поспеху гэтай оперы, але разам з тым і глыбока ўсведамляем, што перад намі стаяць вялікія задачы па стварэнню новых буйных оперных твораў, якія ўслаўлялі б нашу рэчаіснасць, савецкіх людзей, будаўнікоў камунізма. Цяпер тэатр напружана працуе над стварэннем новага беларускага балета маладога кампазітара Я. Глебава «Мара балерыны», які расказвае аб лёсе простай беларускай дзяўчыны, што трапіла ў раннім дзяцінстве на чужыну, перанесла ўвесь цяжар так званага «свабоднага свету» і знайшла сапраўднае шчасце пасля вяртання на радзіму. Гэтую новую работу наш калектыў прысвячае XXII з'езду партыі. Мы таксама імкнёмся да расшырэння творчых сувязей з кампазітарамі братніх рэспублік.

У плане тэатра на бліжэйшы год пастаноўка балета Г. Вагнера «Цудоўнае святло» на лібрэта М. Алтухова і опера Ю. Семянякі на лібрэта А. Бачылы «Залаты вальс». Але мы не можам абмяжавацца толькі гэтымі пастаноўкамі. Мы чакаем новых твораў ад старэйшага пакалення беларускіх кампазітараў Я. Цікоцкага, А. Багатырова, У. Алоўнікава, П. Падкавырава і іншых.

Наш тэатр заўсёды адчувае клопаты і дапамогу партыі і ўрада. Мудрыя ўказанні Мікіты Сяргеевіча Хрушчова аб цесным яднанні інтэлігенцыі і народа асвятляюць шлях далейшага развіцця нашай культуры.

З пачуццём вялікай адказнасці, з гарачым жаданнем аддаць усе свае сілы, усё сваё майстэрства далейшаму росквіту савецкага опернага мастацтва мы рыхтуемся сустрэць XXII з'езд нашай роднай Камуністычнай партыі.

Удзельнікі сходу з вялікім уздымам прынялі пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС.

Ад імя ўсіх пісьменнікаў і работнікаў мастацтва, ад імя ўсёй інтэлігенцыі Савецкай Беларусі, гаворыцца ў пісьме, мы запэўніваем Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, што будзем нястомна працаваць над ажыццяўленнем указанняў нашай роднай Камуністычнай партыі. Мы сустрэнем XXII з'езд КПСС новымі выдатнымі творамі літаратуры, кіно, жывапісу і скульптуры, азнаменуем гэтую найвялікшую падзею ў жыцці нашай краіны творчай натхнёнай працай на карысць савецкага народа.

(БЕЛТА).

*Беларускі дзяржаўны народны аркестр пачаў свой летні канцэртны сезон па гарадах і раённых цэнтрах рэспублікі. Шматлікія слухачы пачуюць творы беларускіх кампазітараў Д. Камінскага, Я. Глебава, І. Ронькіна і інш.*

*Аркестр ужо выступіў у парках Мінска, Маладзечна, Слуцка, Брэста, Высокага, Кобрына, а таксама на будаўніцтве Васілевіцкай ДРЭС. Разам з аркестрам выступаюць салісты Белдзяржфілармоніі Г. Огнійцава, Г. Будзько, саліст Тэатра оперы і балета В. Ганчарэнка, саліст Беларускага радыё Ю. Смірной.*

*Неўзабаве канцэрты адбудуцца ў гарадах Мазыры, Бабруйску, Магілёве, Віцебску, Полацку.*

*Сімфанічны аркестр Белдзяржфілармоніі таксама пачаў летнія выступленні на паркавых пляцоўках Мінска, Барысава і іншых гарадоў.*

*НА ЗДЫМКУ: Беларускі народны аркестр выступае ў г. Высокім Брэсцкай вобласці.*

Фота **М. Рубінштэйна.**

# ЧУЦЕН ГОЛАС НАШ ДАЛЁКА

За апошнія гады наша літаратуразнаўства даволі паспяхова вывучае ўзаемасувязі беларускай літаратуры з рускай, украінскай і польскай літаратурамі. На жаль, гэтага нельга сказаць пра вывучэнне яе сувязей з літаратурамі іншых славянскіх народаў, а таксама з літаратурамі краін, якія яшчэ знаходзяцца пад прыгнётам капітала. Тут робяцца яшчэ толькі першыя крокі. Таму выхад такіх кніг, як «Беларуская літаратура за мяжой» Д. Фактаровіча, В. Цімафеевай, Н. Лапідуса (Мінск, 1958) і «Беларуская савецкая літаратура за мяжой» Д. Фактаровіча (Мінск, 1961) — справа, якую трэба ўсяляк вітаць.

Д. Фактаровіч у сваёй кнізе паказвае, як паступова наша літаратура, народжаная ў рэвалюцыях 1905 і 1917 гадоў, «не толькі свайму народу, але і сусветнай культуры нясе... свой дар» (М. Багдановіч), займаючы ўсё больш сталае месца ў духоўным багацці народаў свету.

Узаемасувязь літаратур, іх узаемаўзбагачэнне становіцца больш шырокім тады, калі «спробы разумовай дзейнасці асобных нацый становяцца агульным здабыткам і з многіх нацыянальных і мясцовых літаратур утвараецца адна сусветная літаратура» (К. Маркс і Ф. Энгельс. Маніфест Камуністычнай партыі). У гэтым аспекце аўтар і разглядае папулярнасць беларускай савецкай літаратуры за мяжой.

Калі адразу пасля Вялікага Кастрычніка ў некаторых краінах, у першую чаргу славянскіх, былі вядомы толькі асобныя творы нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, то з цягам часу колькасць вядомых за мяжой твораў майстроў беларускага мастацкага слова стала даволі значнай. Гэта тлумачыцца велізарнымі поспехамі, якіх дасягнулі беларуская культура і літаратура за гады Савецкай улады.

Пералік замежных выданняў беларускай літаратуры, які робіць аўтар у першых раздзелах кнігі, сапраўды сведчыць, што «чуцен голас наш далёка за мяжой».

На вялікі жаль, акрамя пераліку мы не знойдзем у кнізе такіх дадзеных: **калі** выдаваўся той ці іншы твор, **хто** быў перакладчыкам і г. д.

Аўтар агаворваецца на адной са старонак, што «прабелы ва ўзаемнай інфармацыі і планамернай арганізацыі перакладчыцкай справы, якія адзначаліся на кангрэсе ЮНЕСКА ў Дэлі (1956 г.) і на канферэнцыі ЮНЕСКА ў Парыжы (1958 г.), паказваюць, што ўзаемасувязі літаратур Усходу і Захаду даследуюцца і ўлічваюцца зусім недастаткова. Таму нельга аперыраваць статыстычнай бібліяграфіяй па гэтаму пытанню. Мы пазбаўлены пакуль што магчымасці поўнасцю сказаць, дзе, хто і колькі выдаў перакладаў або напісаў пра беларускіх аўтараў».

З гэтым мы згодны. Але ўсё ж пры магчымасці сёе-тое сказаць, ды не гаварыць — зусім недаравальна. Прывядзём адзін са шматлікіх прыкладаў. У Кітайскай Народнай Рэспубліцы выдана аповесць «Дрыгва» Якуба Коласа. Чаму не сказаць, што гэты твор выйшаў у 1958 годзе пад загалоўкам «Стары герой-партызан» у перакладзе Лі Хэнь-Міна, што ў кнізе змешчаны біяграфічныя звесткі аб Якубе Коласе, уступны артыкул К. Крапівы і Я. Мазалькова.

Удала напісан трэці раздзел кнігі — «Прыяцелі і ворагі беларускай савецкай літаратуры за рубяжом». У ім Д. Фактаровіч засяроджвае ўвагу чытача на кнізе Луі Арагона «Савецкія літаратуры», падрабязна спыняецца на пасляслоўі Іозефа Румлера да чэшскага выдання 1955 года анталогіі «Паэты Беларусі», на змястоўнай манаграфічнай працы італьянскага літаратара Дж. Месіны «Беларуская літаратура», выдадзенай у 1952 годзе. У вышэйназваных працах разглядаюцца шляхі развіцця беларускай літаратуры, даецца ацэнка многім творам нашых пісьменнікаў.

Аўтар кнігі выкрывае заходніх даследчыкаў-фальсіфікатараў беларускай літаратуры тыпу М. Вакара, якія ўсялякім чынам стараюцца ачарніць і прынізіць творчасць Ф. Багушэвіча, Я. Купалы і Я. Коласа. Ім не да спадобы, што беларускі народ, вызваліўшыся ад прыгнёту, стварае сваю культуру і літаратуру, сацыялістычную па змесце і нацыянальную па форме. Таму яны праліваюць кракадзілавыя слёзы аб нібыта «трагічным лёсе» беларускага народа.

Як бы ні стараліся буржуазныя даследчыкі, яны ніяк не здолеюць закрыць дарогу праўдзе. Народы капіталістычных краін ужо даўно разбіраюцца, дзе праўда, а дзе хлусня. І гэтым гора-даследчыкам нашай літаратуры ніяк не ўдаецца і не ўдасца адгарадзіць свой народ ад твораў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, П. Броўкі, П. Глебкі, М. Танка, Я. Брыля, І Шамякіна і многіх іншых нашых пісьменнікаў. Іх творы карыстаюцца папулярнасцю за мяжой, бо ў іх — праўда аб нашай краіне, праўда аб нашым народзе.

Шкада толькі, што аўтар не заўсёды падрабязна і грунтоўна гаворыць пра гэтую папулярнасць нашых пісьменнікаў за мяжой. Напрыклад, у кнізе амаль нічога не сказана пра распаўсюджанасць твораў беларускіх савецкіх пісьменнікаў у Балгарыі, калі не лічыць беглых аўтарскіх заўваг, што на балгарскай мове былі выдадзены творы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, І. Шамякіна, Я. Брыля, В. Віткі і што ў Балгарыі была пастаўлена п'еса В. Вольскага «Несцерка». А, як вядома, пачынаючы яшчэ з 30-х гадоў, на старонках балгарскага друку з'яўляюцца артыкулы аб беларускай літаратуры, перакладаюцца творы беларускіх пісьменнікаў. Так, напрыклад, у сувязі з 10-годдзем БССР пралетарская літаратурная газета «Наковалня» змясціла два артыкулы — «Культура Савецкай Беларусі» і «Сучасная беларуская літаратура». Крыху пазней у ёй змешчан невялікі артыкул аб Цішку Гартным у сувязі з яго юбілеем. У штотыднёвай літаратурнай газеце «Работнически литературен фронт» быў апублікаван артыкул аб творчасці А. Александровіча.

У пачатку саракавых гадоў газета «Зара» змясціла артыкул М. Лынькова «Пясняр Беларусі» аб творчасці Змітрака Бядулі, а газета «Литературен глас» — артыкул аб творчасці Янкі Купалы.

Пасля вызвалення Балгарыі ў 1944 годзе ад нямецкага фашызму творы беларускіх пісьменнікаў пачалі часцей з'яўляцца на балгарскай мове. Асобнымі выданнямі выходзяць раман Івана Шамякіна «Глыбокая плынь» і кніга пра дзяцей Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык». Часта друкуюцца творы беларускіх паэтаў у перакладзе Дзімітра Методзіева, Найдзена Вылчава, Івана Давідкава на старонках часопіса «Септемврі» і іншых выданняў.

Варта было б аўтару падрабязна спыніцца і на артыкуле Фёдара Солдана «Паэт Беларусі» — пасляслоўі да чэшскага выдання «Рыбаковай хаты» Якуба Коласа, а таксама на кнізе Вацлава Жыдліцкага «Сорак год украінскай і беларускай савецкай літаратуры», якую выдала ў 1957 годзе Таварыства чэхаславацка-савецкай дружбы. У ёй даецца агляд творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, А. Гурло, Я. Журбы, ёсць некаторыя звесткі пра творчасць К. Крапівы, Зм. Бядулі, П. Труса, М. Лынькова, П. Броўкі, П. Глебкі, К. Чорнага, А. Куляшова, М. Танка, Я. Брыля і іншых пісьменнікаў.

Не пашкодзіла б справе, каб аўтар спыніўся і на прадмове да нямецкага выдання «Дрыгвы», якая выйшла ў ГДР пад назвай «Партызаны на Прыпяці», дзе сказана, што Якуб Колас — «адзін з выдатнейшых прадстаўнікоў беларускай літаратуры», што ён «піша жывой, вобразнай мовай, прыпраўленай моцным сялянскім гумарам. Вобразы яго раманаў напісаны з вялікай пранікнёнасцю, а сюжэт развіваецца жыва і захапляюча».

Цяжка пагадзіцца з некаторымі «навуковымі» палажэннямі Д. Фактаровіча, якія сустракаюцца ў кнізе. Вось адно з іх: «Не дзіўна, што выхаванцы на ўлонні Навагрудчыны, натхнёны паэзіяй гэтага краю, А. Міцкевіч і ў выгнанні нязменна **ўспамінаў «Літву», гэта значыць Заходнюю Беларусь»** (падкрэслена намі. — **М. Б.).** Дзіўна чытаць такі «навуковы» вывад, калі перад гэтым (заўважым, на гэтай жа старонцы) сам жа аўтар прыводзіць выказванне Л. Кручкоўскага, які пісаў: «Цяжка ў творчасці А. Міцкевіча аддзяліць яго нацыянальную непаўторнасць ад глыбокага і хвалюючага паэтычнага пачуцця, якім, як матчыным малаком, ускарміў яго **народ беларускі»** (падкрэслена намі. — **М. Б.).** У Л. Кручкоўскага на творчасць Адама Міцкевіча аказаў уплыў беларускі народ, у Д. Фактаровіча — Адам Міцкевіч прызнае толькі Заходнюю Беларусь.

Цяжка паверыць Д. Фактаровічу, калі ён выказвае думку, што «многія польскія літаратары, якія прайшлі школу А. Міцкевіча, усрынялі і яго адносіны да фальклору братніх славянскіх літаратур. Сярод іх віднае месца заняў Ян Чачот — аўтар арыгінальных твораў на беларускай мове і некалькіх зборнікаў па этнаграфіі і фальклору беларускага народа». Ніякай фальклорнай школы Адама Міцкевіча не было. І ў галіне фальклору не А. Міцкевіч аказаў уплыў на Яна Чачота, а наадварот — Чачот на Міцкевіча.

Сустракаюцца ў кнізе і фактычныя недакладнасці. Так, разглядаючы кнігу Рэнэ Мартэля, якая выйшла ў Парыжы ў 1929 годзе, Д. Фактаровіч падае яе назву так: «Беларусія. Эцюды гістарычныя, эканамічныя, геаграфічныя», хаця сам Рэнэ Мартэль назваў яе «Беларусь. Эцюды гістарычныя, геаграфічныя, палітычныя і эканамічныя». Чэшскі часопіс «Славянскі прэгляд» увесь час фігуруе пад назвай «Славянскі пшэгляд» і г. д.

Мы не будзем спыняцца на тым, што кніга Д. Фактаровіча рыхлая па кампазіцыі, што ў ёй сустракаюцца стылістычныя агрэхі, што іншы раз аўтар паўтарае сам сябе. Але вельмі непрыемна сустракаць у ёй адны і тыя ж самыя выказванні беларускіх пісьменнікаў, толькі на розных старонках. Так, на стар. 55 аўтар спасылаецца на выказванне Кузьмы Чорнага, што «... уся грандыёзнасць беларускай савецкай культуры ў тым, што яна заваявала ўвесь свет, бо ёю ставяцца і вырашаюцца праблемы, цікавыя і патрэбныя ўсяму чалавецтву». Гэтая ж думка Кузьмы Чорнага прыводзіцца Д. Фактаровічам яшчэ двойчы — на стар. 58 і 89 — толькі ў сваім пераказе.

Гэта самае можна сказаць і аб выказваннях Я. Коласа і М. Багдановіча (параўнай стар. 38—39 і 87; 51 і 58).

Усіх гэтых недахопаў не хацелася б сустракаць у кнізе Д. Фактаровіча «Беларуская савецкая літаратура за мяжой», якая ўпершыню шырока асвятляе папулярнасць твораў нашай літаратуры ва ўсім свеце.

**М. БАЗАРЭВІЧ.**

## Падзеі, факты, навіны

**△ Перад працоўнымі Мінска і Маладзечна выступіў польскі ансамбль песні і танца Вільнюскага Дома культуры прафсаюзаў. Гэты самадзейны калектыў, у склад якога ўвайшлі рабочыя і служачыя літоўскай сталіцы, існуе пяць год.**

**У праграму свайго выступлення харавая група ансамбля (дырыжор і кіраўнік хору В. Туроўскі) уключыла гімн Р. Гліэра «Да вяршыняў камунізма», польскія, рускія, літоўскія і беларускія песні. Беларуская народная творчасць была прадстаўлена песнямі «Пайду, пайду, Ясю мілы» ў апрацоўцы Р. Пунста і «Вечарком за рэчкаю».**

**Польскія народныя танцы «Траяк», «Танец горцаў», «Мазурка», «Кракавяк» і іншыя выканала танцавальная група ансамбля (пастаноўшчык З. Гулевіч).**

**Мінчане цёпла сустрэлі выступленне самадзейных артыстаў з Вільнюса. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Палаца культуры прафсаюзаў Беларусі падаравалі гасцям альбом з фотаілюстрацыямі Мінска і ўзнагародзілі іх букетамі жывых кветак.**

**Г. ЮР'ЕЎ.**

**△ На прадпрыемствах, у навучальных установах Пінска, у калгасах раёна праводзяцца вусныя часопісы, тэматычныя вечары, чытаюцца лекцыі аб палёце чалавека ў космас.**

**Цікавую праграму вечара на тэму «Чалавек выйшаў у космас» падрыхтавала гарадское аддзяленне Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў.**

**Вечар на гэту тэму адбыўся ў Малатковіцкім сельскім Доме культуры.**

**В. БАЙДА.**

**△ У дні агляду работы клубных устаноў рэспублікі часцей пачалі наладжвацца абменныя канцэрты паміж сельскімі клубамі. Цікавы канцэрт адбыўся ў Каўшарскім сельскім клубе, з якім выступілі ўдзельнікі агітбрыгады Пукарышскага клуба. Дзяўчаты праспявалі некалькі беларускіх песень, танцоры па-майстэрску выканалі «Лявоніху», «Беларускую польку». Яшчэ выступалі аматары мастацкага слова Валянціна Багушэвіч і Ганна Юдзіцкая.**

**Н. КАРЖУЕЎ.**

**△ Жыццёвай патрэбай сталі кнігі для калгаснікаў Капыльшчыны. Многія з хлебаробаў з'яўляюцца актыўнымі чытачамі сельскіх і раённай бібліятэк. Карысную работу па распаўсюджванню кніг праводзяць кнігі ношы. Яны не толькі падбіраюць літаратуру ў бібліятэках, але і разносяць іх па кватэрах калгаснікаў для абмену. Кнігі ношы бяруць у кнігарні літаратуру і прадаюць насельніцтву.**

**Карысную справу робяць кінамеханікі Галіна Контусь і Леанід Кандыбовіч. У вольны ад працы час яны прадаюць хлебаробам літаратуру, якую атрымліваюць у капыльскім кніжным магазіне.**

**М. СЯУРУК.**

**Па гарадах Савецкай Беларусі.** На плошчы імя Леніна ў горадзе Баранавічы.

Фота **М. Мінковіча.**

**Пісьмы з азёрнага краю**

# НА ПАРОЗЕ ПРАЦОЎНАГА ЖЫЦЦЯ

Закон аб узмацненні сувязі школы з жыццём народа, прынятый ў нашай краіне, прынёс вялікую карысць у справе працоўнага выхавання нашых юнакоў і дзяўчат. «Жыццё поўнасцю пацвердзіла правільнасць і своечасовасць прынятых мер па спалучэнню навучання з грамадска-карыснай прадукцыйнай працай, як асновы далейшага ўздыму адукацыі і камуністычнага выхавання маладога пакалення», — гаворыцца ў пастанове Савета Міністраў СССР «Аб паляпшэнні вытворчага навучання вучняў сярэдніх агульнаадукацыйных школ», якая ўчора апублікавана ў друку.

Многія школы нашай рэспублікі паспяхова ажыццяўляюць прафесіянальнае навучанне моладзі. Шмат захапляючых спраў напаткаеш у школах Браслаўскага раёна. У Далёцкай сярэдняй школе абсталявана добрая майстэрня. Тут ёсць асобныя вузлы аўтамашыны, разнастайны інструмент, станкі, многа розных схем і плакатаў. Мае школа сваю аўтамашыну, вось толькі няма трактара, а ён надзвычай патрэбны.

Выкладчык матэматыкі гэтай школы Яфім Рыгоравіч Тамашэвіч умела спалучае выкладанне свайго прадмета з прафесійным навучаннем школьнікаў. У час Вялікай Айчыннай вайны ён быў танкістам, механікам-вадзіцелем грознай машыны, удзельнічаў у баях пад Масквой.

— Наш галоўны кансультант па тэхніцы, — гаворыць пра яго старшыня калгаса Аляксей Сарыкаў. — Стаў у полі трактар ці ў машыне што заела — самым лепшым лекарам будзе Яфім Рыгоравіч. У яго асаблівы нюх на тэхніку. Прыйдзе, паглядзіць, пакруціць, дзе трэба, нейкую дэтальку заменіць — і адразу загурчыць матор, нібы злуючыся, што дарэмна прастаяў некалькі гадзін.

Не толькі гэтым вядомы настаўнік Яфім Рыгоравіч. Многа клапоціцца ён пра тое, каб яго выхаванцы, заканчваючы школу, адначасова атрымалі спецыяльнасць вадзіцеля аўтамашыны і трактарыста.

У 1956 годзе Яфім Рыгоравіч падрыхтаваў 18 шафёраў, у 1957 — 13, у 1958 — 37, 1959 — 35, а ў 1960 годзе — 6. Акрамя таго, у мінулым годзе павысілі кваліфікацыю 30 шафёраў мясцовых калгасаў. Яны паспяхова здалі экзамен на шафёра другога класа. І цяпер у школе ёсць 15 вучняў, якім хоць сёння выдавай пасведчанне на права ваджэння машыны. Але вось бяда — маладыя яшчэ хлопцы, гадоў не хапае!

Яфім Рыгоравіч вучыць сваіх выхаванцаў не толькі кіраваць машынай. Кожны з іх умее адрамантаваць рухавік, задні мост і г. д., ведае асновы слясарнай справы.

У жыцці ёсць многа дарог і трэба кожнаму юнаку і дзяўчыне выбраць такую з іх, якая была б найбольш блізкай ім па схільнасцях, каб адразу пасля заканчэння школы юнак і дзяўчына маглі б уключыцца ў стваральную працу народа, быць актыўнымі будаўнікамі камуністычнага грамадства. У Далёцкай школе працуе біёлаг Марыя Якаўлеўна Гатальская, якая шмат увагі аддае выхаванню ў дзяцей любві да роднай прыроды, вучыць будучых майстроў высокіх ураджаяў і жывёлагадоўлі. Школа мае свой сад, гадавальнік, агарод, цяпліцу, парнікі, трусагадоўчую ферму. Значыць, ёсць дзе прыкласці атрыманыя на ўроках веды і юным садаводам, і кукурузаводам, і даглядчыкам трусоў. Створана вытворчая вучнёўская брыгада, якая летась засеяла для калгаса пяць гектараў кукурузы. Усё рабілі сваімі рукамі школьнікі — і гной вазілі, і пасевы даглядалі, пасля сіласавалі кукурузу. Ірына Умпяровіч, Соф'я Откінская, Валерый Бугакаў і многія іншыя вучні паказалі сябе добрымі кукурузаводамі. Па 700 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы з гектара атрымалі школьнікі.

А яшчэ школа на працягу чатырох год вяла даследчую работу па вырошчванню кукурузы на насенне. Сеялі чатыры гатункі кукурузы. Старанна даглядалі вучні свае дзялянкі: угнойвалі, палолі. Словам, рабілі ўсё, каб добра расла каралева палёў. І як радаваліся юныя пераўтваральнікі прыроды, калі з'яўляліся першыя пачаткі, калі спела ў іх добрае, адборнае зерне. Значыць, і ў нашых шыротах можна вырошчваць кукурузу на насенне! У мінулым годзе вучні Далёцкай школы атрымалі да ста кілаграмаў зерня кукурузы!

Дырэктар школы Таццяна Мікалаеўна Фадзеева вырашыла падзяліцца сваёй радасцю з аграномам райсельгасінспекцыі тав. Зайцавым, параіцца аб планах на будучае. А ён нібы вядро халоднай вады выліў на галаву школьнікаў.

— Саматужніцтва гэта, — сказаў, — кінье дарэмнай справай займацца...

Вядома, пасля такой гаворкі ў вучняў увесь запал знік. Навошта ж рабіць тое, чаго дарослыя не ўхваляюць, лічаць дзіцячай забавай. Таццяна Мікалаеўна з крыўдай расказвае, што давялося тое кукурузнае зерне, вырашчанае рукамі вучняў, скарміць трусам.

Скажам прама, няправільна зрабіў агранам Зайцаў. Ды і школа дарэмна адступіла.

* * *

— Вы паспяхова закончылі школу, — гаварыў на развітанне выпускнікам дырэктар Браслаўскай сярэдняй школы Станіслаў Баляслававіч Аблам. — А цяпер вас чакае іншая школа, і гэта іншая школа — жыццё, суровае, патрабавальнае, але поўнае радасці, пошукаў новага, неспазнанага.

У той незабыўны вечар адначасова з атрыманнем атэстата сталасці чатырнаццаці выпускніцам школы ўручаліся пасведчанні аб тым, што ім нададзена годнасць медыцынскіх сясцёр. Вось і адкрыт шлях у жыццё. Маеш сярэднюю адукацыю і адначасова атрымліваеш прафесію. Гэта былі першыя ластаўкі, якія практычна паказвалі, якой павінна быць школа ў наш час.

Ужо другі год Браслаўская сярэдняя школа працуе па новай праграме, якая аддае шмат увагі вытворчаму навучанню. І трэба шчыра сказаць, што гэтай справай тут заняліся надзвычай сур'ёзна, удумліва.

— Мала ўзброіць вучняў тэарэтычнымі ведамі, даць ім прафесію, — гаворыць тав. Аблам. — Трэба яшчэ паклапаціцца, каб пасля школы нашы выхаванцы адразу знайшлі сабе месца ў жыцці, пайшлі працаваць на вытворчасць, у калгасы і саўгасы...

Давялося зыходзіць выключна з мясцовых умоў. Ёсць у Браславе вялікая аўтабаза. Значыць, яна можа стаць і для школы добрай базай у вытворчым навучанні. Яе абсталяваныя цэхі — радыятарны, маторны, слясарны, электрацэх — дапамогуць вучням авалодаць усімі вытворчымі працэсамі. Так і зрабілі: юнакі дзесятых і дзевятых класаў праходзяць вытворчую практыку ў цэхах аўтабазы, авалодваюць спецыяльнасцю шафёра-слесара шырокага профілю.

А дзяўчатам дзесятых класаў прапанаваны іншыя спецыяльнасці. Адны з іх з захапленнем вучацца крою і шыццю, дамаводству, другія будуць медыцынскімі сёстрамі. Навучанне будучых медыцынскіх сясцёр адбываецца на базе раённай бальніцы. Душою гэтай новай для азёрнага краю справы з'яўляецца галоўны ўрач Вера Аляксандраўна Шыдлоўская.

Дзевяцікласніцы вывучаюць тэлефон, тэлеграф, паштовыя апарацыі. Пасля сканчэння школы яны атрымаюць прафесіі тэлефаністак, тэлеграфістак, работнікаў калгасных радыёвузлоў і паштовай справы.

Абавязковым лічыцца, каб кожны вучань займаўся грамадска-карыснай працай. Пад кіраўніцтвам агранома-біёлага Мікалая Антонавіча Дудкевіча вучні сёлета азелянілі стадыён, зрабілі на ім лаўкі, пасадзілі на беразе возера 1 300 дрэў, дому састарэлых калгаснікаў дапамаглі пасадзіць бульбу, добраўпарадкавалі школьны двор, зрабілі тэнісны корт.

А ў мінулым годзе вучні старэйшых класаў разам з настаўнікамі і бацькамі прымалі самы актыўны ўдзел у будаўніцтве школы. За лета было дабудавана яшчэ шэсць класных пакояў. Акрамя таго, рукамі вучняў быў пабудаваны і гараж. І так гэта справа была добра наладжана, што многія вучні атрымалі прафесіі будаўнікоў, сталі мулярамі.

Дапамагае школа і калгасу «Дружба». Іх звязвае даўняя і шчырая дружба. Пад кіраўніцтвам Мікалая Антонавіча паспяхова працуе вучнёўская вытворчая брыгада. У мінулым годзе, напрыклад, школа засеяла калгасу дзесяць гектараў кукурузы. Добры ўраджай атрымалі школьнікі — па тысячы цэнтнераў зялёнай масы з гектара! Узначальвала вучнёўскую брыгаду камсамолка Вольга Ціранава. Добра праявілі сябе звеннявыя Іван Шлапак, Георгій Брылевіч і іншыя.

Гадуюць школьнікі для калгаса трусоў. За два апошнія гады яны здалі на ферму 1.600 трусоў.

Калгаснікі шчодра аддзякавалі сваім юным памочнікам. Для школы калгас набыў інструменты для духавога аркестра, тэлевізар. Лепшыя вучні атрымалі прэміі.

А сёлета для калгаса «Дружба» вучні Браслаўскай школы засеялі сем гектараў кукурузы. Акрамя таго, вядзецца значная доследная работа на прышкольным участку.

Шмат захапляючых спраў робяць школьнікі азёрнага краю. Вытворчае навучанне вучняў нявблага наладжана ў Слабодкаўскай, Відзаўскай, Барадзініцкай сярэдніх школах, у Браслаўскай васьмігадовай школе. Гэтыя першыя прыклады набліжэння школы да жыцця атрымліваюць гарачую падтрымку з боку шырокай грамадскасці раёна, а таксама бацькоў і вучняў.

Мы расказалі аб тым, як у браслаўскіх школах рыхтуюць слесараў, шафёраў, медыцынскіх сясцёр, работнікаў сувязі. Выпускнікі ўдзячныя школам за тое, што адначасова з агульнай сярэдняй адукацыяй яны атрымліваюць пэўную спецыяльнасць.

А можна ж арганізаваць справу так, што адна з сярэдніх школ раёна будзе рыхтаваць работнікаў для клубных устаноў і бібліятэк, у якіх ёсць такая вялікая патрэба. Цяжкасці, вядома, будуць. Але варта толькі як належыць узяцца за справу, і сельскія ўстановы культуры атрымаюць кваліфікаваныя кадры. Перспектыва ж якая прывабная! Свае работнікі культуры, свае выхаванцы! А што? Над гэтым сапраўды варта падумаць і раённаму аддзелу народнай асветы і аддзелу культуры.

**Я. ДАНСКАЯ.**

# ВЯЛІКІ СЫН РАСІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

«Мёртвыя душы» Гогаля канчаткова пераканалі крытыка ў яго правільнай думцы аб тым, што асноўныя асаблівасці рускай літаратуры заключаюцца ў асуджэнні існуючай рэчаіснасці і ў падтрымцы веры і надзеі ў людзей на прыход лепшай будучыні.

Глыбокае і ўсебаковае вывучэнне творчасці Гогаля дало падставу Бялінскаму назваць гэтага выдатнага пісьменніка галавой рускай літаратуры і заснавальнікам натуральнай школы, г. зн. Гогаль, на думку крытыка, даў новы напрамак у развіцці рускай літаратуры — напрамак крытычнага рэалізму. Разам з тым Бялінскі, прытрымліваючыся гістарычнага погляду на літаратурны працэс, падкрэсліваў, што і сам Гогаль і натуральная школа — гэта вынік развіцця ўсёй рускай літаратуры папярэдніх часоў.

Бялінскі любіў Гогаля за яго магутны талент, за глыбокую праўдзівасць яго твораў, за бязлітасную крытыку тагачасных сацыяльна-палітычных парадкаў царскай Расіі. І таму з вялікім болем у сэрцы ўспрыняў ён рэакцыйна-дыдактычны твор пісьменніка «Выбраныя месцы з перапіскі з сябрамі». Гэты твор, як вядома, выклікаў да жыцця славутае пісьмо Бялінскага да Гогаля, у якім, з аднаго боку, вялікі крытык па-ранейшаму высока ацэньваў усю папярэднюю творчасць пісьменніка, а з другога — бязлітасна крытыкаваў, рашуча асуджаў Гогаля за яго рэакцыйныя пропаведзі.

Пісьмо Бялінскага да Гогаля— выдатны прыклад аб'ектыўнай, прынцыповай, «прамой крытыкі», аб чым гаворыць і ўся дзейнасць Бялінскага як літаратурнага крытыка. Свае думкі і перакананні ён выказваў заўсёды смела, рашуча, рэзка і абараняў іх заўзята і настойліва, за што некаторыя літаратары часта абвінавачвалі яго ў рэзкасці выразаў і «нецярпімасці». І калі аднойчы папракнуў яго ў гэтым Боткін, Бялінскі гнеўна яму адказваў:

«...Застануся горда і перакананa нецярпімым. І калі зраблюся цярпімым — ведай, што з той хвіліны я — кастрат...»

Кіпучая натура рэвалюцыянера-дэмакрата Бялінскага, яго высокая прынцыповасць, страсць барацьбіта не магла мірыцца з гнілым лібералізмам прадузятай, лагоднай крытыкі, якая прапаведвала «цярпімасць». Са злым сарказмам гаварыў ён пра крытыку, якая калі і асуджала што-небудзь, то рабіла гэта «з такою далікатнасцю, што нярэдка само ганьбаванне можна прыняць за пахвалу».

Прынцыпу «прамой крытыкі» Бялінскі прытрымліваўся на працягу ўсёй сваёй літаратурнай дзейнасці і заставаўся яму верны і тады, калі справа датычылася яго ўласных памылак.

Бялінскі быў не проста літаратурным крытыкам, ён быў крытыкам-настаўнікам. Такія выдатныя прадстаўнікі рускай класічнай літаратуры, як Гогаль, Лермантаў, Тургенеў, Някрасаў, Кальцоў, Ганчароў, адчулі на сабе вялікую сілу яго духоўнага ўплыву. Кальцоў, напрыклад, расказваў Панаеву: «Я абавязан усім яму; ён мяне паставіў на сапраўдную маю дарогу; без яго парад я не адважваюся цяпер друкаваць маёй пісаніны: ён мне гаворыць заўсёды, што трэба выкінуць, што паправіць, што зусім кінуць...»

Вялікі паэт зямлі рускай Някрасаў называў Бялінскага сваім настаўнікам, ён прысвяціў светлай памяці крытыка цудоўныя, пранікнёныя паэтычныя радкі:

...Молясь твоей многострадальной тени,
Учитель! Перед именем твоим
Позволь смиренно преклонить колени!

Галоўную сілу крытычнага аналізу, эстэтычных меркаванняў Бялінскага складала тое, што ён, апрача добрага ведання законаў мастацтва, добра ведаў жыццё і быў носьбітам перадавой для таго часу рэвалюцыйнай тэорыі.

Каштоўнасць і жыццёвасць яго тэарэтычных ідэй абумоўліваліся тым, што яны з'яўляліся вынікам канкрэтнага аналізу з'яў сучаснай яму рэчаіснасці і літаратуры. Яго эстэтыка мела вялікае значэнне не толькі таму, што абагульняла мастацкі вопыт тагачаснай літаратуры. Вялікая сіла яе заключалася ў тым, што яна, як пражэктар, асвятляла рускай літаратуры шлях яе далейшага развіцця. І не толькі рускай, але і літаратурам іншых народаў царскай Расіі. Такім чынам, Бялінскі не ішоў па слядах літаратуры, а вёў яе за сабой. У яго руках пяро крытыка ўпершыню станавілася дзейснай палітычнай зброяй, якая актыўна расхіствала турму народаў — Расійскую імперыю.

Лепшыя традыцыі эстэтыкі Бялінскага былі ўспрыняты новай, савецкай літаратурай і літаратурнай крытыкай і атрымалі сваё далейшае развіццё ў эстэтыцы сацыялістычнага рэалізму. Савецкія літаратуразнаўцы і крытыкі многаму вучыліся і працягваюць вучыцца ў вялікага рускага крытыка Бялінскага, бо яго спадчына — гэта багацейшая і вечна жывая крыніца думак і пачуццяў, якая захавала сваю сілу, сваё значэнне і да нашага часу.

Бялінскі быў вялікім патрыётам радзімы, які ўсю энергію свайго палымянага сэрца, увесь свой талент, сваё жыццё аддаў на служэнне народу. Ён бязмежна верыў у светлую будучыню сваёй бацькаўшчыны. Яго прарочыя словы пра будучыню Расіі збыліся. Магутны Савецкі Саюз сапраўды стаіць цяпер на чале цывілізаванага свету і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва прыносіць даніну глыбокай павагі народам нашай краіны, яе літаратуры і мастацтву. Вялікі сын вялікага народа Вісарыён Рыгоравіч Бялінскі шмат зрабіў для набліжэння гэтай цудоўнай будучыні сваёй радзімы. Мы, яго ўдзячныя нашчадкі, поўнай жменяй бяром з яго багатай літаратурнай спадчыны ўсё тое, што дапамагае нам будаваць нашу культуру, будаваць светлы дом чалавецтва — камунізм.

**Антон СЕМЯНОВІЧ**

## КНІЖНЫЯ СКАРБЫ—НАРОДУ



Любяць сваю бібліятэку жыхары вёскі Белае Полацкага раёна. Тут налічваецца 576 пастаянных чытачоў. Для абслугоўвання далёкіх вёсак створаны тры бібліятэчкі-перасоўкі.

Вялікую работу сярод чытачоў праводзіць загадчыца бібліятэкі Тамара Сямёнаўна Собаль. Яна ведае іх запатрабаванні, ведае, каму якую кніжку парэкамендаваць.

**На здымку: Т. Собаль** сярод работнікаў свінагадоўчай фермы саўгаса «Белае».

Фота **У. Лупейкі.**
Фотахроніка БЕЛТА.

## Без чытача няма бібліятэкі

Сівагаловы калгаснік Пракоп Кукраш запытаўся ў бібліятэкаркі Ніны Верамейчык:

— Пра паездку Мікіты Сяргеевіча Хрушчова ў Амерыку ў вас ёсць што пачытаць?

— Ёсць. Вось, калі ласка...

Было гэта яшчэ мінулай восенню, калі Пракоп Кукраш не лічыўся ў спісках чытачоў Рэчынскай сельскай бібліятэкі. Не раз напаміналі яму, каб запісаўся, а ён усё аднекваўся. Гады, маўляў, ужо не тыя, не да кніжак. І вось Ніна зайшла раз-другі ў хату да старога, пагутарыла, пакінула кнігу, часопіс. І цяпер Пракоп Кукраш — самы актыўны чытач.

Хораша на вуліцы вясновым вечарам. Але не пустуе ў гэты час і сельская бібліятэка. Моладзь, пажылыя калгаснікі, вучні, ідуць у бібліятэку атрымаць кнігу, прачытаць свежы нумар часопіса, пагуляць у шашкі, шахматы, паслухаць гутарку, падрыхтавацца да чарговай канферэнцыі чытачоў. Калі ласка! Загадчыцы Ніне Верамейчык ёсць што прапанаваць. Больш чым пяць тысяч кніг мае бібліятэка. Быў час, калі не хапала атэістычнай, сельскагаспадарчай, навукова-папулярнай літаратуры. Цяпер набыты і гэтыя кнігі.

Сёлета бібліятэка выдала каля шасці тысяч кніг. Гэта амаль у два разы больш, чым за той жа час мінулага года. На 125 чалавек павялічылася ўжо сёлета колькасць чытачоў. Сярод іх маладыя калгаснікі, жывёлаводы, механізатары.

Сумная вярнулася з фермы маладая даярка Таня Адзінец. Надоі малака не радавалі яе. «За такія паказчыкі па галоўцы не пагладзяць. Аднак, у чым жа прычына?» — думае Таня. Працавала, старалася, а тут не прырост надояў, а нават змяншэнне атрымалася. Нешта, відаць, не ўлічана. Але што іменна?

— Ніначка, даражэнькая, — пыталася Таня праз колькі мінут у загадчыцы бібліятэкі. — Знайдзі мне што-небудзь пра догляд жывёлы летам. Вельмі патрэбна, разумееш...

Бібліятэкарка адшукала маладой калгасніцы патрэбныя ёй кнігі.

Пастаяннымі наведвальнікамі бібліятэкі з'яўляюцца таксама даярка Валянціна Грышчэня, калгаснік Віктар Пыжык, свінарка Таццяна Касцюкавец і іншыя. Ды хіба ўсіх пералічыш! Іх многа. І самае галоўнае — яны не толькі актыўныя чытачы, але і надзейныя памочнікі, добрыя прапагандысты кнігі. Гэта пры іх непасрэдным удзеле рэгулярна наладжваюцца ў бібліятэцы канферэнцыі чытачоў, працуюць перасоўкі, праводзяцца гучныя чыткі літаратуры і іншыя мерапрыемствы.

— Без чытача няма бібліятэкі, — кажа Ніна Верамейчык. — А для гэтага трэба ведаць схільнасці кожнага чытача, улічваць запатрабаванні, вывучаць попыт на кнігу. Інакш які ж ты бібліятэкар!..

Не раз наведваўся ў бібліятэку калгаснік Іван Ляўчэня. Прачытаў «Над Цісай», потым казкі братоў Грым. Наступным разам Ніна прапанавала яму Жуля-Верна. А ён нечакана папрасіў выбраныя творы Мічурына. Вось тут і паспрабуй разабрацца, што каго цікавіць! Але Верамейчык не бянтэжыцца. Наадварот, задаволена — значыць, расце кругагляд чытача, значыць, адчуў чалавек густ да кнігі.

Няма ў калгаснай вёсцы той хаты, дзе б не чыталі бібліятэчнай кнігі. Гэтаму шчыра радуецца бібліятэкарка.

Не лёгкую, але ганаровую службу нясе Рэчынская сельская бібліятэка, і ў гэтым вялікая заслуга яе загадчыцы—маладой, ініцыятыўнай камсамолкі Ніны Верамейчык.

**В. БЫЧОК.**

Любанскі раён.

## Зачараваны замак

З дзяцінства мы памятаем казкі пра зачараваныя замкі, якія берагалі скарбы ад людзей «за сямю пячаткамі». Ніхто не мог тых скарбаў здабыць. Таямнічая сіла не дапускала да іх нават самых бясстрашных волатаў.

Ці ж не падобна на такі таямнічы замак Варганская сельская бібліятэка Докшыцкага раёна з яе багатым кніжным скарбам?

Загадчыцай бібліятэкі працуе Ларыса Сініца, якая скончыла дзесяцігодку. Як толькі яна паступіла на працу, яе паслалі на курсы ў Віцебск.

Ларыса вучылася, а чытачы спадзяваліся, што прыедзе вопытная загадчыца бібліятэкі, і тады работа закіпіць. Але замест таго, каб пасля вучобы Л. Сініца працавала, яе накіравалі ў чарговы адпачынак. Пасля гэтага кіраўнікі раённага аддзела культуры зноў паслалі Л. Сініцу на вучобу аж у Мінск.

Атрымліваецца так: загадчыца вучыцца ды адпачывае, адпачывае ды вучыцца, а бібліятэка—на замку. Праўда, раённы аддзел культуры абавязаў загадчыцу Крулеўшчынскай сельскай бібліятэкі Ірыну Жынько раз на тыдзень прыходзіць і выдаваць кнігі. Яна некалькі разоў хадзіла, а потым і забылася. Ды і хадзіць ёй далёка —каля дзесяці кіламетраў.

**А. ГАПАНЕНАК.**



Талін. У Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета «Эстонія» выступіла ў ролі Жызелі ў аднайменным балеце прыма-балерына Фінскага Нацыянальнага тэатра оперы Дорыс Лайне.

**На здымку:** сцэна з балета. Жызель—Дорыс Лайне, прынц—Упо Пуусааг.

Фота **Э. Нормана.**
Фотахроніка ТАСС.

## ПРАЗ ДВАЦЦАЦЬ ГОД

По-геройску абаранялі гонар і незалежнасць нашай Радзімы пад баявым сцягам 393-га асобнага артылерыйскага зенітнага дывізёна камсамолец сержант Уладзімір Фаміч Ткачук і Міхаіл Якаўлевіч Родзін. І вось яны сустрэліся праз дваццаць год ля Усходняга форта Брэсцкай крэпасці, на месцы жорсткіх баёў.

Да сцен аднаго з умацаванняў Усходняга форта Ул. Ткачук усклаў вянок, які ён прывёз з-пад Вінніцы. Былы воін пацалаваў зямлю, якую палілі сваёй крывёю таварышы па зброі.

У памяці герояў адзін за адным усплываюць эпізоды баявых подзвігаў савецкіх салдат і афіцэраў. Яны з вялікім хваляваннем агледзелі памяшканне, дзе стаяў іх дывізён, казематы, адкуль вялі агонь па ворагу. Ул. Ткачук успамінае:

— Усходні форт нашай крэпасці быў пабудаваны ў выглядзе падковы. Для абароны форта былі расстаўлены на валу і іншых месцах кулямёты, ля амбразур паставілі байцоў з вінтоўкамі і гранатамі. Жорсткія былі баі. Немцы вялі атакі пяхотай і танкамі. Мы адчувалі недахоп у ежы, але страшней за ўсё было тое, што не было вады. Раніцай 29 чэрвеня вораг заваліў акопы форта бочкамі з гаручым і падпаліў іх, але і гэта не зламала дух нашых байцоў, якія 32 дні мужна абаранялі Брэсцкую цытадэль.





Былыя воіны бессмяротнага гарнізона падыходзяць да дарагой рэліквіі — баявога сцяга дывізёна. Яны становяцца на калені і цалуюць алае шоўкавае палотнішча.

Уладзімір Фаміч расказвае:

— Незадоўга да вайны камандзір нашай часці капітан Дураў, начальнік штаба, старшы лейтэнант Аўчыннікаў, два чырвонаармейцы і я, як камсорг дывізёна, у наркамаце абароны ў Маскве атрымалі гэты баявы сцяг.

Былыя воіны-героі пабывалі ў гасцях у пагранічнікаў, сустрэліся з піянерамі. Піянеры горача сустрэлі ганаровых гасцей і ўручылі ім палявыя кветкі. Ул. Ткачук сказаў:

— Праз дваццаць год мы зноў у Брэсце. Тут мы, савецкія салдаты, змагаліся з фашыстамі, каб адстаяць мір, каб людзям жылося радасна і шчасліва. Зараз я працую брыгадзірам лесаводчай брыгады калгаса імя Чапаева Пішчанскага раёна Вінніцкай вобласці. Я вырошчваю лес, і няхай у неба глядзяць вяршыні бяроз і сосен, а не жэрлы гармат.

**На здымках:** 1. Экскурсанты ля Цярэспальскіх варот у Брэсцкай крэпасці.

2. **Ул. Ткачук і М. Родзін** сустрэліся ля Усходняга форта.

Тэкст і фота **М. Рубінштэйна.**

## Падзеі, факты, навіны

△ Дзяржаўны ансамбль танца БССР зноў сустракаецца з маскоўскім гледачом. У зялёным тэатры саду ЦДСА адбыўся першы канцэрт. Масквічы з цікавасцю прагледзелі вялікую праграму з беларускіх народных танцаў, а таксама танцаў народаў СССР. Канцэрты адбудуцца таксама на адкрытых пляцоўках паркаў сталіцы.

△ У Барысаве адбыўся канцэрт Беларускай дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы. Выступленні артыстаў адбыліся ў мінскім парку імя Чалюскінцаў.

△ На гастролі ў Калінінград выехаў Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета. У час гастроляў калінінградцам будуць паказаны оперы «Чарадзейка», «Цыганскі барон», «Манон», балеты «Карсар», «Лебядзінае возера», «Блакітны Дунай» і інш.

△ Спектаклем «Іркуцкая гісторыя» па п'есе А. Арбузава пачаў гастролі ў Магілёве Рыбінскі драматычны тэатр.

У рэпертуары тэатра спектаклі «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага, «Уцёкі з начы» бр. Тур, «Усімі забыты» Н. Хікмета, «Дыплом на званне чалавека» І. Шура і іншыя.

У час гастролей рыбінскія артысты таксама пакажуць свае спектаклі ў Бабруйску, Быхаве, Горках, Чавусах і іншых раённых цэнтрах вобласці.

△ 10 дзён у Нясвіжскім, Стаўбцоўскім і Дзяржынскім раёнах Мінскай вобласці выступалі калектывы мастацкай самадзейнасці Палаца культуры прафсаюзаў Беларусі. У калгасных дамах культуры, на палявых станах, у брыгадах дэманстравалі сваё мастацтва калектывы народнага хору і народнага танца, акрабатычны ансамбль, салісты-спевакі, чытальнікі.

За 10 дзён самадзейныя артысты далі 20 канцэртаў.

△ Мінская гарадская нотна-музычная бібліятэка і кінатэатр «Перамога» наладзілі для гледачоў музычную гутарку, прысвечаную 135-годдзю з дня смерці вядомага нямецкага кампазітара Карла Марыя Вэбэра.

Аб жыццёвым і творчым шляху кампазітара расказаў кансультант бібліятэкі М. Жухавіцкі. Артысты філармоніі і Тэатра оперы і балета выканалі некалькі арый і рамансаў Вэбэра.

## СУСТРЭЧА Ў РЭДАКЦЫІ

У рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» адбылася сустрэча з творчымі работнікамі — музыкантамі, крытыкамі і музыказнаўцамі.

У таварыскай размове аб тым, як палепшыць асвятленне музычнага жыцця рэспублікі на старонках газеты, удзельнічалі старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны артыст СССР Я. ЦІКОЦКІ, мастацкі кіраўнік Акадэмічнай харавой капэлы, народны артыст СССР Р. ШЫРМА, галоўны дырыжор Тэатра оперы і балета, народны артыст БССР Л. ЛЮБІМАЎ, дацэнт Беларускай кансерваторыі С. КАПАРА, дырыжор Дзяржаўнага народнага аркестра БССР В. БАРСАЎ, музыказнаўцы А. РАКАВА, В. СІЗКО і Б. СМОЛЬСКІ.

Рэдкалегія газеты выносіць шчырую падзяку ўсім таварышам, якія прысутнічалі на сустрэчы.

# Таленавітая змена

### З АГЛЯДУ МАЛАДЫХ ТАЛЕНТАЎ МУЗЫЧНЫХ ВУЧЫЛІШЧАЎ РЭСПУБЛІКІ

У нашай краіне стала традыцыяй правядзенне розных конкурсаў, фестываляў, аглядаў маладых талентаў музычнага і вакальнага мастацтва. У выніку такіх своеасаблівых творчых спаборніцтваў вызначаецца ўзровень развіцця выканаўчых кадраў і далейшая перспектыва іх мастацкага росту.

Адбыўся рэспубліканскі агляд маладых спевакоў — студэнтаў музычных вучылішчаў Савецкай Беларусі. Ён паказаў пэўныя поспехі ў выхаванні вакалістаў. Большасць удзельнікаў агляду маюць добрыя галасы, валодаюць музычнасцю.

Першы тур — адборачны — праходзіў у абласцях, другі і трэці — у сталіцы рэспублікі. Журы агляду да ўдзелу ў трэцім, заключным, туры дапусціла дзевяць лепшых выканаўцаў, пяці з якіх былі прысуджаны ганаровыя дыпломы.

Сярод іх асабліва вылучаецца выпускніца Мінскага музычнага вучылішча Э. Зігер, якая яшчэ ў снежні мінулага года на Усесаюзным конкурсе спевакоў імя М. Глінкі атрымала прызнанне маскоўскіх слухачоў. У Э. Зігер прыгожае сапрана, добрая вакальная тэхніка, яна ўмее карыстацца рознымі сродкамі выразнасці. Таленавітай спявачцы прысуджана першае месца на аглядзе. Сапраўдны поспех маладой салісткі можа падзяліць і яе педагог Н. Швайко, які выхаваў спявачку.

Парадаваў журы студэнт-трэцякурснік Гомельскага музычнага вучылішча А. Калеснічэнка. Ён мае прыгожы поўнага дыяпазону лірычны тэнар, валодае добрай выканаўчай манерай. У яго спяванні ёсць шчырасць, што выклікае цёплы водгук у слухачоў. А. Калеснічэнка, як і Э. Зігер, адзначан дыпломам першай ступені.

Радаснае ўражанне пакінуў і выпускнік таго ж вучылішча — лірычны барытон Ю. Ганчарэнка. Пранікнёнае выкананне праграмы, асэнсаваная фразіроўка — усё гэта не толькі заслуга спевака, але і вынік намаганняў яго педагога І. Працэнкі.

Дыпломамі трэцяй ступені ўзнагароджаны выпускнікі Ф. Богдан з Брэсцкага музычнага вучылішча і Е. Кукса з Мінскага музычнага вучылішча, якія прадэманстравалі нядрэнныя вакальныя даныя.

Асобна хочацца спыніцца на выступленні студэнткі Магілёўскага музычнага вучылішча Л. Шылькрот (клас педагога Вакуленкі). Яе лёгкае лірычнае сапрана прыемнага тэмбру спалучаецца з нейкай асаблівай паэтычнасцю, шчырасцю перадачы твора. На развіццё выканаўчага майстэрства дзяўчыны варта звярнуць асаблівую ўвагу. У перспектыве яна можа стаць добрай камернай спявачкай.

Гэта ўсё тое, што найбольш запомнілася на аглядзе і выклікала ў членаў журы станоўчыя водгукі. Але тут жа выявіліся і істотныя недахопы ў падрыхтоўцы будучых спевакоў. Вельмі прыкрае пачуццё пакідае інтанацыйная недакладнасць у спяванні многіх маладых вакалістаў, іх неахайнае стаўленне да музычнага тэксту. Празмернае захапленне «гучком» часта прыводзіла студэнтаў да фарсіроўкі голасу. К. С. Станіслаўскі вучыў маладых вакалістаў спяваць не проста ноты, а «думка-ноты», г. зн. заклікаў да асэнсаванага спявання. А нашы выканаўцы часта думаюць толькі пра добрае гучанне свайго голасу, забываючы пры гэтым удумліва і правільна раскрываць сэнсавы і эмацыянальны змест рамансаў, арый, песень.

Выклікае нездавальненне і падбор рэпертуару для вакалістаў. У некаторых спевакоў ён далёка не адпавядаў іх галасавым магчымасцям, патрабаваў не толькі тэхнічнага майстэрства, але і асаблівай драматычнай насычанасці. Так, складаная арыя Іаанны з оперы «Арлеанская дзева» Чайкоўскага была непасільнай для студэнткі Сакалоўскай, а драматычная арыя Сантуццы з оперы «Сельскі гонар» Масканьі проста процipаказана лірычнаму голасу студэнткі Каспорскай.

Зусім незразумела, якімі прынцыпамі кіравалася камісія пры вызначэнні абавязковых для выканання студэнтамі твораў. Напрыклад, для драматычнага сапрана была адабрана арыя Наташы з оперы Даргамыжскага «Русалка». Аднак, як вядома, у гэтай оперы ёсць адна надзвычай цяжкая і дынамічна насычаная арыя гераіні ў падводным царстве. Педагогі вучылішча разгубіліся і вымушаны былі ўключыць у праграму выступленняў сваіх выхаванцаў закулісную песню дачкі млынара. Гэтая песня, якая не мае музычнай закончанасці, ніколі не выконвалася ў адкрытых канцэртах, таму проста дзіўна, што на гэты раз яе вырашылі вынесці на эстраду.

Камісія па правядзенню агляду рэкамендавала таксама для выканання маладым спевакам арыю Германа з «Пікавай дамы» Чайкоўскага. Між тым у гэтай оперы вялікага рускага кампазітара ёсць цэлыя дзве арыі Германа — «Я имени ее не знаю...» і «Прости, небесное созданье». Апроч гэтага, ёсць фінальны маналог Германа ў першай карціне і славутая брындзізі ў заключнай сцэне оперы. Якую з гэтых арый камісія мела на ўвазе — застаецца загадкай. Зусім недапушчальным было ўключэнне ў праграму арыі Сабакіна з оперы «Царская нявеста» Рымскага-Корсакава. Гэтая арыя патрабуе ўстойлівага гучання крайніх нот верхняга і ніжняга рэгістраў спевака і з'яўляецца зусім непасільнай для выканання навучэнцамі музычных вучылішчаў. У рэпертуары маладых вакалістаў чамусьці не было рамансаў савецкіх кампазітараў, у тым ліку беларускіх.

Мы маем права прад'явіць сур'ёзныя прэтэнзіі канцэртмайстрам-піяністам. Многія з іх у час акампаніравання спевакам дапускалі фальшывыя акорды, пропускі асобных фраз, рытмічныя агрэхі. У выніку такога музычнага суправаджэння значна зніжалася ўражанне ад выкананага спеваком вакальнага твора. Затое, як прыемна было чуць адточанасць і мастацкую выразнасць у акампанеменце піяністкі Я. Марозавай! Такіх канцэртмайстраў на аглядзе выступала не так многа.

Нам здаецца, няўдала былі прадуманы і вызначаны тэрміны правядзення агляду. Яны супалі з самай гарачай і адказнай парой для студэнтаў — веснавой экзаменацыйнай сесіяй. Рашэнне калегіі Міністэрства культуры і Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Беларускай ССР аб аглядзе было прынята яшчэ ў лютым гэтага года. Было дастаткова часу для падрыхтоўкі і правядзення конкурсу маладых талентаў у першай дэкадзе мая, напярэдадні сесіі. Супадзенне тэрмінаў агляду з веснавымі экзаменамі ў спецыяльных навучальных установах прывяло да таго, што ён прайшоў скамечана, паспешна.

Агляд маладых талентаў — не вузка ведамасная справа. Ён мае вялікае грамадска-палітычнае значэнне і павінен быць сапраўдным святам як для саміх удзельнікаў, так і для ўсёй нашай грамадскасці, якой не абыякавыя шляхі развіцця музычна-вакальнага мастацтва ў рэспубліцы.

**С. КАПАРА,**
**дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

## У выкананні юных музыкантаў

У Горацкім раённым Доме культуры адбыўся справаздачны канцэрт мясцовай музычнай школы, прысвечаны заканчэнню навучальнага года. Дырэктар школы Б. Круглікаў расказаў пра работу выкладчыкаў па музычнаму выхаванню дзяцей і ўдасканаленню іх выканаўчага майстэрства. Павялічылася грамадская роля школы. Яе выкладчыкі і вучні не раз выступалі з лекцыямі-канцэртамі перад працоўнымі горада Горкі і ва універсітэце мастацкага выхавання пры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

Канцэрт пачаўся выступленнем зводнага хору школы пад кіраўніцтвам выкладчыка Р. Ядрэўскай. Найлепш была выканана песня кампазітара А. Новікава «Піянерская адвага».

Большую частку праграмы склала выступленне вучняў фартэпіянных класаў. З выпускніц-піяністак добра выступілі Ліда Барышнікава, Люда Чванава і Іра Красікава.

У заключэнне канцэрта выступіў аркестр баяністаў. Яго кіраўніку А. Корзунаву за адзін год удалося стварыць з вучняў розных класаў зладжаны калектыў, якому пад сілу выкананне нават тэхнічна складаных твораў.

Канцэрт зрабіў на слухачоў увогуле добрае ўражанне. Аднак якасць падрыхтоўкі асобных нумароў не заўсёды задавальняла. Недаравальным таксама з'яўляецца тое, што ў праграме не было твораў беларускіх кампазітараў. З сарака паказаных нумароў толькі два творы адносіліся да беларускага мастацтва (танцы «Лявоніха» і «Крыжачок»).

**В. МІТРАЕЎ,**
**старшы выкладчык кафедры замежных моваў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.**


**Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.**

**Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.**





«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу

АТ 00251

Друкарня імя Сталіна.